могли (Зб. 261, 76б); той, который розꙋмъ маетъ неꙋставѣчный слабый и мдлый (Каліст, I, 10б); Мꙋдрцы зас его ... ꙗкъ нѣмые стоѧли ... толко слабые нѣѧкіе и мало важные вносѧчи словца (Варл., 252б—253); справы его слабы (Зб. 107, 180); философіѧ и всѧ наꙋка поганскаѧ слаба ест (Зб. 82, 158б).

**4.** *Недасканалы па сваёй будове, канструкцыі.* хочэ дати твои кон видение нам на поводы наступаючи, нижли бы ты его прывел пры своем слабом стрэмени (Трыст., 95); Четыри зас аспиды, людского тѣла, зˢ четырехъ слабыхъ и непевныхˢ елементовъ, зложенье значатˢ (Варл., 112); во вере, бо ѡна ест фунъдаментом всего бꙋдованꙗ дꙋховного которыˢ если ест слабыˢ все се маеть до ꙋпадкꙋ (Зб. 255, 60б); сꙗ на тое море в тоˢ слабоˢ лодце пꙋстили (Зб. 259, 307б). // *перан.* на слабых филѧрехъ, единовластіе папежов римских той дѣеписъ засажаетъ (Апакр., 109).

**5.** *Непераканальны, негрунтоўны.* то противъ людемъ нового законꙋ, слабый доводъ (Апакр., 61).

**6.** *Непадрыхтаваны да змагання, вайны.* неприѧтелˢ ... войнꙋ противко вѣрныхъ подносить ... слабаѧ еднакˢ его сила зостала (Варл., 59).

**7.** *У знач. наз. Той, хто мае недахоп фізічнай сілы.* не можемъ терпѣти постного трꙋда. то есть извѣтъ слабых (Чэцця, 298—298б); скꙋпꙗтсꙗ бꙋдꙋт моцные, але кгды роспорошиш станꙋтсꙗ слабые (Зб. 261, 117); ты абовѣмъ кгды посилокъ оучинишˢ, и слабые моцными сѧ ставают (Варл., 218б). ◊ Слабая плоть (слабый полъ) — *слабы пол.* ꙗкˢ шаленый и безрозꙋмный и слабый нашъ полъ нашовши, до конца ѡный перемогли и поконали (Варл., 263б); панна ... до риму з ѡтцем своим пришла ... на ѡбварованꙗ кревкости слабоˢ плоти, и до злого з прироженꙗ склонноˢ (Зб. 752, 436б).

**Слава** *наз.* **1.** *Ганаровая вядомасць.* то есва оучинила собѣ на памѧть, а с[вя]т[о]му ивану в ч[е]сть и оу славу (ПГ, I, 52, 1387); Нѣ возˢлюби славы и богатесˢтва людеи грешˢныхˢ (Скар. ІС, 17—17б); слава его будет слынути на весь свѣт (Рач., 314); тˢвое ест королевъство і моцъ и слава навеки (Цяп., 8); тое то славное панство великое кнꙗзьство ... въ славе, тытулех, столицы, зацности ... ꙋменшивати и ꙋимовати, або понижати не маемъ (Ст. 1588, 65); мещане Велижъские ... кровъ свою для славы нашое ... проливали (ИЮМ, I, 354, 1616); Животъ на конецъ славы, а смерть Геенны впротивъ собѣ стоѧтъ (Сматр., 24—25); Капланове ... маютъ честь славꙋ, и гоноръ, не тылко

шлѧхец^s^кій, але королевскій (Зб. вып., 54). ◊ Г о с п о д ь с л а в ы — *Ісус Хрыстос.* гсь славы дасть ти разꙋмъ (Чэцця, 2); к о р о л ь (ц а р ь) с л а в ы — *Ісус Хрыстос.* што еси оучинити хоте*л*. иже королѧ славы оукрижова*л* еси (Пак. Хр., 29б); Абы взѧли а ѡ*т*ом^s^кнули врата вѣчнаѧ царю славы, или славному, то естъ сыну божіему (Будны, 143б); преблагословенаꙗ девица е*ст* ѡны*м* домо*м* в которо*м* царъ славы ѡ*т*почива*т* мае (Зб. 255, 315б); м а е с т а т ъ с л а в ы — *месца Ісуса Хрыста ў час Страшнага суда.* кгды прійдетъ Сн҃ъ человѣчій в^s^ славѣ своей, и вси Ст҃іи Аг҃гли з^s^ нимъ: тогды сѧдетъ на маестатѣ славы своеи. И зберꙋт^s^сѧ пере*д* него всѣ народѡве, и ѡ*т*лꙋчитъ и*х* одного ѡ*т* дрꙋгого, ꙗкъ пастꙋхъ ѡ*т*лꙋчает^s^ ѡвцы ѡ*т* козлѡвъ (Каліст, I, 20); п а н и с л а в ы — *маці Ісуса Хрыста.* да млстівои та матоухне его которое жь ме*ч* болести прениклъ. доуше наше тела наше полецьмы рекоуче ис ст҃ымъ авкгоустино*м*. ѡ пани славы ѡ пани веселіа. криница милости (Пак. Хр., 16).

**2.** *Рэпутацыя (часта з азначэннямі “добрая”, “злая”).* слава іссва иже розмаите немоци и многіе болести ѡдны*м* слово*м* оуздоровлѧ*л* по вси*х* зм҃лѧ*х* множиласе а розлетеласе (Валх., 60б); то^s^ же шлѧ*х*ти*ч* ... са*м*трете^s^ собе ровны*ми* шлѧхтичи доброе славы присѧгою своею телесною мает сѧ ѡчистити (Ст. 1529—Ф, 158—159); скѫпость же вселично слава злаѧ, непристоинаѧ гсдрьствоу (Арыст., 141); придали к томꙋ мно*г* неподобны*х* рече^s^ ... ѡ*т*ко*л* тое рꙋно славꙋ взꙗло (Бельск., 80); што бысмы з того за славꙋ ѡде*р*жали коли бысмы его в таково*м* ꙋпа*д*ку забили (Алекс., 41); живешъ абовѣмъ славою честногѡ живота (Сматр., 46); на тои часъ могꙋт^s^ сѧ ѡпꙋстити заповѣди, длѧ захованѧ славы невѣсты (Зб. вып., 79—79б).

**3.** *Чутка, пагалоска.* ꙋслышавши тꙋю славоу иже пре *е*зехіаша королѧ жидовского то*т* дивъ сталсе бы*л*. тогды емоу многіе дары послали (Валх., 41); хрестьꙗне ... которые бы на кож*д*ы*и* го*д* в плебано*в* або попо*в* свои*х* на и*х* споведи быва*ли* ани ꙋ славе межи ѡколицы ани в злоде*и*стве. ани в фа*л*ши*в*стве тые мають допущоны быти сведецъства (Ст. 1529—Ф, 107); слава слынꙋла и*ж* авесоло*м* всю бра*т*ю поби*л* (Бельск., 106б); была ѡ не*м* слава, ижъ на ѡ*д*номъ мѣсцꙋ зме*ш*ка*т* не може*т* (Зб. 82, 106).

**4.** *Услаўленне, шанаванне.* принесете гсви сла*в*у а почтиво*ст*, принесете гсви славоу именю его (Пс. XVI, 97); король Ду*н*ски*и* великую славу и дары дава*л* сла*в*ному господару великому кн҃зю Вито*в*ту (Рач., 334); пѣніе розмаите заспѣвала и славꙋ гд҃ꙋ бг҃у ѡ*т*давала (Зб. 107, 176). *Параўн.* ислава.

**5.** *Вокліч, які азначае: хвала, гонар!* слава тобѣ гси іссѣ хсе (Чэцця, 205б); панна ... голос ангелски[s] спеваючи[s] ѹчѹла: слава во вишных бг҃ѹ и на земли миръ (Бельск., 194б); слава литости и млсрдію его (Мак., 20); Богу нашому слава во вѣки вѣковъ (АВК, III, 2, 1661).

**Славенороссский** *прым. Царкоўнаславянскі.* Леѯіконъ, славенорѡсскій. Именъ толькоѣаніе (Бяр., загаловак).

**Славенски** *прысл. Па-славянску.* Секратъ, тмѹкрат: Славенски маетсѧ писати, на томъ мѣстци секрати (Бяр., 145).

**Славенский** *гл.* словянский

**Славеный** *гл.* славленый

**Славенье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* славити *ў* 1 *знач.* Хваленіе, съставленіе: славене (Бяр., 185).

**Славетнейший** *прым., выш. ст. ад* славетный. Нарочитѣйшій: славетнѣйшіи (Бяр., 88).

**Славетный** *прым. Славуты.* розныхъ славетныхъ мѣщанъ мѣста нашого столечного Виленского ... ласкаво позволили есмо на то (АЗР, IV, 22, 1589); оповѣдали и жаловали славетни бурмистры, радцы ... мѣста его королевское милости Полоцкого (АВК, VIII, 502, 1615); ѡтправоваласе справа славетное олшки кгирлювны (КАР, 31, 1646); Нарочитый: изрѧдный, найлѹчшій, славетный, знаменитый (Бяр., 88); таляры подали до рукъ славетному пану Даніелю Сапоцку (ИЮМ, VII, 8, 1690). *Параўн.* славутный *у* 1 *знач.*

**Славимый** *дзеепрым. ад* славити *ў* 1 *знач.* што естъ жаден не зрозѹмѣе нѣкгды. а роздѣленіе которое в[s] ипостасех славимои бытности (Каз. Кір., 116); по милости и благословенству всесильного во Троицы славимого Бога (АЗР, IV, 469, 1615); волею ... бг҃а мовлю во троци ст҃о[s] единого православно ѡт правовѣрныхъ славимаго (Дыяр., 173б); кланѧюсѧ великомѹ бг҃ѹ ... трема голосы славимомѹ (Алекс. 1697, 53б).

**Славити, славить** *дзеясл.* **1.** *Услаўляць.* іванъ ... навчилъ цр҃кви хрестьѧньскии. бг҃а славити (Чэцця, 189б); ижъбы ... славили ѡтца вашего которий ест на нб҃сех (Цяп., 6); самъ, дети его милости ... того тытулу ... уживати, славить, писать ... маютъ (АВК, XXXVI, 169, 1582); хтоколвекъ мене славит бѹдет прославлю его (Біблія, 303); з[s] Хр҃а по вси вѣки тѣшилисѧ: славѧчи ѡтца, и Сн҃а, и ст҃го Дх҃а, во вси вѣки (Мак., 85); шли до манастыра з великою радостию славечи бг҃а и ст҃ых (Зб. 82, 245б).

**2.** *Паведамляць; распаўсюджваць чуткі.* послано до Лукъ триста головъ, для того, штожъ славили о нашихъ людехъ По-

лоцкихъ, ижбы подъ Луки мѣли пойти (АЗР, II, 332, 1534); ромꙋса, и ромꙋлюса ... *ѡт* вол*ч*ицы были выховани; ꙗкъ славꙗ*т*, *ѡт* фаꙋстына пастꙋха были зна^s^дени (Стрыйк., 537б); подданыхъ своихъ ... собравшы, наказала, абы того не славили (АВК, XVIII, 207, 1607); Апс҃толъ С҃ты^s^ павел того тимофеꙗ родичы плотии невѣстеи слави*т* (Зб. 752, 492).

**3.** // *перан. Няславіць.* она мене о забитье малжонка своего позвала и невинне мене тым славить (АВК, XXXVI, 291, 1582).

**Славитися** *дзеясл. Славіцца; мець рэпутацыю.* *ѡн* ес великии п*а*н моцны*и*. слави*с* *ѡт* чю*д* египе*т*ски*х* (Пс. XVI, 131–131б); Имѧ твое свѧтое нехай сѧ в^s^ насъ славитъ (Лям., 15); вѣрꙋй в^s^ ... Троцꙋ, котораѧ се в^s^ Трехъ Пер^s^сонахъ, и в^s^ ѡдномъ Бозствѣ славитъ (Варл., 162б).

**Славить** *гл.* славити

**Славленый, славеный** *дзеепрым. ад* славити *ў* 1 *знач.* поиди ко славеномоу моемоу раю (Чэцця, 159); абы имꙗ твое славлено было (Бельск., 256); На земли, мовитъ, ꙗ тебе прославилемъ, бо на н҃бѣ оуже славленъ былъ *ѡт* Агг҃лѡвъ (Каліст, I, 161б); на завтрени николи есми не задрѣмалъ ... ѡ што не *м*нѣ^s^ биле*м* *ѡт* всих шанова*н* и славе*н* (Зб. 752, 561б).

**Славне, славно** *прысл. Са славаю, з гонарам, у пашане.* пришло врѣмѧ страсти его. ꙗкоже са*м* похотѣлъ. того длѧ н҃нѣ приходіть славно (Чэцця, 164); ꙋмыслилъ есми былъ славне честовати тѧ (Скар. ЛК, 52б); за рѣч лѣпшую и хорошшую [!] почытано зацне а славне умереть (Атыла, 193); Василія Тышкевича ... домъ его милости з давныхъ временъ славне и мужне господаромъ своимъ ... служили (АВК, XXXVI, 168, 1582); дв*д*ви было славно ко*ли* его*ж* мече*м* ѡ*л*брима заби*л* (Зб. 261, 115б); це*р*ковъ с҃тои и*в*фимии в ха*л*кидоне *ѡт* нее сла*в*не напра*в*лена была (Зб. 82, 34б). ◊ Ч и н и т и  с л а в н о — *урачыста абвяшчаць.* чинимъ славно и знаемо и даемъ ведомо оусе*м*, хто коли сюю грамоту видить, а любо слышить прочитаѧ (ПГ, I, 50, 1387).

**Славней** *прысл., выш. ст. ад* славне. Преславнѣе, разнственнѣе, ꙁвѱ҃нв. На*д*то славнѣй, за*ц*нѣ*и* (Бяр., 122); славнѣ^s^ се та*м* со х҃омъ веселити и вышити бꙋду*т* (Зб. 107, 114б).

**Славнейший** *прым., выш. ст.* **1.** *Ад* славный *у* 1 *знач.* буду еще смир^s^неишии ... и съ девками ... славнеишии ꙗвлюсꙗ (Скар. ДЦ, 77б); хто*ж* е*ст* в^s^ твое*м* домꙋ вѣ*р*нѣ^s^ши^s^ и славнѣ^s^ши^s^ на*д* д҃ѣда (Бельск., 98б); чекаетъ и онаѧ надъ Херꙋвимѡвъ честнѣйшаѧ и на*д* Серафимѡвъ славнѣйшаѧ (Сматр., 45); тѣло

змученное тым славне^s^шое бȣде чим болше^s^ муки претерпимо (Зб. 752, 129б); Каплан^s^ство естъ славнѣйшое над всѧ всего свѣта панства (Зб. вып., 52).

**2.** *Ад* славный *у* 2 *знач.* богъ ... вчинить васъ славнеишими надъ все народы (Скар. ДЗ, 49б); сей званый межи трема дȣжими которіи были межи тритцети славнѣйшими: всѧкожь до трехъ не дошолъ (Хран., 278).

**Славно** *гл.* славне

**Славность** *наз. Прыгажосць, пышнасць.* со всею славностию дневе тые оустановлены были потомним их (Скар. КЕ, 17).

**Славный** *прым.* **1.** *Славуты, паважаны.* бог ижь есть оусегда дивныи оу делех своих и славен оу маистате своемъ (Валх., 57); докторомъ франъцискомъ скорининымъ сыномъ изъ славнаго града полоцька (Скар. ПБ, 1); тое то славное панство великое кнѧзство ... понижати не маемъ (Ст. 1588, 65); ѡ смерти славнои памѧти небожчика ѡтца Афанасіа (Дыяр., 177); ѡ ... великій Алеѯандре силный и славный во человѣцех (Алекс. 1697, 93).

**2.** *Вядомы, з пэўнай рэпутацыяй.* Была на тот час в мѣсте бѣлаѧ голова так набожностью ѧко чыстостю и роду зацностью славна (Атыла, 224); ѧко григорій в бг҃ословіи славный гл҃етъ (Апакр., 88); длѧ лȣпѣзства и несправедливости всюды, по всѣхъ сторонахъ славенъ (Каліст, II, 19б); кгрецкіе мȣдрцы и в^s^ наȣце славные (Варл., 248б); сынове его не толко сталисе хрестиѧны але теж в церкви божо^s^ славни (Зб. 255, 277б).

**3.** *Прыгожы.* славное лицо его так се было и зменило. какъ было оуже наполы был оумерлъ (Пак. Хр., 6б); езыка своего славного занедбане (Цяп. Прадм., 268б); в^s^ александрѣи ... над славною рекою нилом (Стрыйк., 426б); Іезекіиль Пророкъ, видѣвши Бжественное и славное видѣніе, сказалъ (Мак., 1); коли Алеѯандер до римȣ приежджалъ тогды их^s^ славно и чȣдно стрѣтеніе было (Алекс. 1697, 16).

**Славолюбие** *наз. Славалюбства.* што прелат^s^, то млстивый панъ, славолюбіѧ, и продкованьѧ пред свѣцкими хтивость (Апакр., 170б); першаѧ злость естъ славолюбіе, або порожней славы пожадливост^s^ (Каліст, II, 125б).

**Славолюбный** *прым. Славалюбны.* слово не до оныхъ ся стегаетъ, але до лакомыхъ, въ маетности хтивыхъ, до пышныхъ, до славолюбныхъ (Пыт., 33); оучачи насъ и на прикладъ даючи, не быти намъ славолюбными (Каліст, II, 145б).

**Славословие, словословие** *наз.* **1.** *Усхваленне.* мч҃никъ ... ѡтворил ȣста своѧ на словословие мовѧчы (Зб. 752, 30б); хтожъ

на славословие ихъ такую го^sную мову и достатны^s ꙗзыкъ мѣти можетъ (Пралог, 501б); хрстиꙗне ... створителевѣ своему бл҃годаръно пѣніе и славословие ѿтдавали (Зб. 82, 280).

**2.** *Частка ютрані.* В нашой церкви: обѣдня ... завтрыня. Славословие (Гарм., 213).

**Славословити** *дзеясл. Усхваляць.* Ієрофе^s ... ѿтходные з свѣта сего пѣсни складат и славословит способилсꙗ (Зб. 752, 425).

**Славутный, славутны, словутный** *прым.* **1.** *Тое, што і* славетный. царь вавилон^sскии ... облѧже Ерѹсалимъ и добылъ его и сказилъ и. и заведе царѧ и людеи словѹтныхъ (Скар. ПЕ, 1б); ставши очевисто славутны Игнать Романович, жаловал на учтивого Семена (АВК, XXXIX, 74, 1578); Славутныи рыцэру, таковыи ѡбычаи мает Смердодучии поганин (Трыст., 113—114); мыючысе дей пану Матшы в лазни в дому славутного пана Яна ... шапъку ... нетъ ведома хто укралъ (АВК, XX, 302, 1631).

**2.** *Які мае пэўную вядомасць, рэпутацыю.* егож теж межи иных многих земль был ѡнъ велми славоутныи ѡстров егож звано екгрисевлѧ (Валх., 47б).

**Славянинъ** *гл.* словянинъ

**Славячий** *дзеепрым. ад* славити *ў* 1 *знач.* ꙗко сам мовит, славѧчих мѧ прослав^sлю (Каз. Кір., 8); при^sми всѧкого чл҃вка тебе славѧчого (Зб. 82, 68б).

**Славящий, славящый** *дзеепрым. у знач. наз. Той, хто праслаўляе каго-н.* гсь бо славить славѧщих его (Чэцця, 305б); гсдь бог, хотꙗчы славꙗщых его прославити ... ѹдивлꙗет их (Зб. 752, 586б).

**Слагати** *дзеясл. Складваць (тварыць).* ѹставлѧю, слагаю (Бяр., 183).

**Сладити** *дзеясл. Саладзіць.* дыꙗволи спанье. сладѧт чл҃комъ (Чэцця, 364).

**Сладкий** *прым.* **1.** *Тое, што і* солодкий *у* 1 *знач.* овощъ его сладокъ (Скар. ПП, 4); сотъ медовъ сладокъ естъ горътани твоеи (Скар. ПС, 37); напил бы сѧ сего вина доброго запахѹ. и сладкого не велми (Арыст., 212).

**2.** *Тое, што і* солодкий *у* 3 *знач.* гор^sкие воды богъ пременилъ во слад^sкии (Скар. КІ, 29); мыꙗсѧ во водах сладких (Арыст., 193—194).

**3.** *Тое, што і* солодкий *у* 4 *знач.* дмитрею смерть вельми сладка (Чэцця, 59б); Пищалка и п^sсалтырь сладок^s чинѧть з^sвукъ (Скар. ІС, 65б); ѡмер^sзено г҃ѹ мысли злыа а чстыи

рѣчи сладкіи (Зб. 262, 101); глас твоˢ сладок и ѡбраз твоˢ красен (Зб. 752, 404); том первеˢ сладкими и лагодными словы девическꙋю при христе статечность взрꙋшит кꙋсилсѧ (Зб. 82, 438б); алеѯандер ... ко филипꙋ рекъ любимый мой врачꙋ филиппе велико ми естˢ сіе пітіе піти с твоихˢ рꙋкъ, сладко ли смерть бꙋдет ѡт тебе мнѣ (Алекс. 1697, 28б—29).

**Сладко** *прысл.* **1.** *Тое, што і* солодко *ў* 1 *знач.* надто еще свербѧть соуставы. с которых же кровъ хаживала и сладко во оустѣх. и в горле прыщы (Арыст., 193).

**2.** *Тое, што і* солодко *ў* 2 *знач.* за него оумрѣти сладко (Чэцця, 54); сот медвеныи рѣчи сладкии сладко дш҃и исцеленіе кости (Зб. 262, 101б); если бы ми сѧ прыгодила великаѧ рана або смерть, то бы ми сладко и лѣпшъ было (Трыст., 79—80); трежды его поцаловала сладко и рече (Бава, 141).

**Сладкоглаголивый** *прым. Салодкамоўны, красамоўны.* красна моꙗ ꙋвꙗнꙋла, ꙋста сладкоглагливыи позатисканы, сличност потемнила (Зб. 81, 226б); ꙋсты сладко глаголивые позатисканы (Зб. 752, 304) усты сладкоглаголивые позатыканы сличност потемнѣла (Зб. 82, 356).

**Сладкое** *прым. у знач. наз. Тое, што і* солодкое. по сем зварити их во медꙋ ѡном на ѡгни тихом. сладкое ѡное возми. горох долгіи ... и спрѧже всѣ во ѡливѣ древѧном. а по сем вари во сладком (Арыст., 213).

**Сладкопение** *наз. Прыемнае, прывабнае спяванне.* он же ... стоꙗти повелелъ певˢцемъ, и во гласе их сладкопение ꙋчинилъ (Скар. ІС, 75).

**Сладкословие** *наз. Уменне гаварыць прыгожа, захапляюча, цікава; красамоўства.* Сладкословие розˢмножаеть приѧтели и ꙋсмирѧеть неприꙗтели (Скар. ІС, 12б).

**Сладкость** *наз.* **1.** *Тое, што і* солодкость *у* 1 *знач.* Мала ест межи перˢнатыми пˢчела, зачало же сладъкости имать плодъ еѧ (Скар. ІС, 19б); к нимˢ же рече смоковница не могу ꙗ опустити сладˢкости своеꙗ, и плоду своего добраго (Скар. КС, 21б).

**2.** *Тое, што і* солодкость *у* 2 *знач.* Глава в҃і ѡ сладˢкости божиеи (Скар. ПБ, 17—17б); онˢ же имеаше в собѣ всѧкое кохание и всѧкого ꙋкушениѧ сладъкость (Там жа, 25).

**Сладне** *прысл. Добра.* вси людѣ сут сотворени на ѡбраз и подобенъство божое и пресветое троˢцы, бо во всих естъ едина дш҃а дꙋховнаꙗ ... и ѡвшем во всем сотвореню сладне ꙗкиˢ показꙋетсе троˢцы пресветое (Зб. 255, 74).

**Сладней** *прысл., выш. ст. ад* сладне. его милость дворанъ Литовъскихъ ... на дворе своемъ ховати волю маеть, одно жъ

хочеть его милость ... обычай тому найти, яко бы то сладней быти могло (КПД, 140, 1547).

**Сладостно** *прысл. Прыемна.* Радостотворѧт, Кощѹнствѹют, любезнѡ и сладоснѡ вѣщают (Бяр., 134).

**Сладостный** *прым. Прыемны.* Глvкеріа: Сладостнаа (Бяр., 264).

**Сладость** *наз. Тое, што і* солодость. абы за приверненьемъ имъ волности ... въ сладости покоя, обфитей просити могли (АЗР, I, 56, 1443); добро есть намъ братіа во сладость послушати вченых (Чэцця, 345б); ѡдиныи. оукладают спанье. и сладость. греховнѹю. а дрѹгие оу блоудъ оуводѧть (Там жа, 364); іако ладанъ воню сладости испѹстите, процвѣтите цветиемъ іако Лилиѧ (Скар. ІС, 63б); іако моvсей, рачей страдати з[s] люд[s]ми Бж҃іими нежели привремен[s]ного грѣха сладост[s] имѣти ѡбираетъ (Карп., 10б).

**Сладце** *прысл. З большым задавальненнем.* мудрость ... моцне и слад[s]це складает вси речи (Скар. ПБ, 12); еднакъ не без потѹ и працы нас дх҃овныхъ, (сладцѣ в[s] том похвалитисѧ можем:) вычищаючи тое іакъ золото з[s] пѣскѹ и грѧзѣ (Мак., 9).

**Сладше, сладче** *прысл., выш. ст. ад* сладко *ў* 2 *знач.* слава чста. пожьданаіа ... сладше медѫ (Чэцця, 218б); твоіа словеса паче медоу нам оувѣгимъ сладше соуть (Там жа, 228); стенникомъ каплють гѹбы чѹжее и сладче ѡлѣю глаголець ее: а послѣдокъ ее горек какъ полын (Зб. 262, 95). *Параўн.* слажши.

**Сладший** *прым., выш. ст.* **1.** *Ад* сладкий *у* 1 *знач.* что сладшего надъ мед[s], или ч[s]то сил[s]неишего над[s] льва (Скар. КС, 32б).

**2.** *Ад* сладкий *у* 3 *знач.* Ничто же несть слад[s]шего токмо соглѣдати заповедеи гсдьних (Скар. ІС, 38б).

**3.** *Смачнейшы.* Вода краденаѧ сладшаѧ ест, и хлебъ сокритыи смач[s]неишии (Скар. ПС, 16б); такъ мıасо их[s] солодко ижъ ѡдного мıаса сладшаго не едали (Алекс. 1697, 78).

**Слажение** *наз. Савакупленне.* коли кого исъ жоною албо с дочкою оу чоужеложстве албо оу слаженіи заспѣеть. не гнѣваетьсе прото (Валх., 83б—84).

**Слажши** *прысл. Тое, што і* сладше. ѡт пощѣниıа велика польза есть. слажши бо сахара (Чэцця, 296б).

**Слама** *наз. Тое, што і* солома. вышедъ огонь и знашолъ сламу и потомъ попалихъ стогы (Скар. КІ, 41).

**Сламати** *дзеясл. Тое, што і* зломати *ў* 1 *знач.* Моисеи ... сламалъ две досце камен[s]не (Скар. ДЗ, 21б); гсдь ... сламалъ в[s]сѧ стены его (Скар. ПЕ, 5б).

**Сланый I** *прым. Тое, што і* солоный *у* 1 *знач.* чи может[s] сѧ іасти не сланое, в нем[s]же не ест солью осолѣно (Скар. КІ,

10б); иначе же е*ст* щедрость на первыи конець. стравца по*до*бенъ е*ст* некоемꙋ лiющю водꙋ сланоу в море (Арыст., 140).

**Сланый II** *дзеепрым. ад* слати I *у* 2 *знач.* Отъ господаря великого князя Александра сланы дары царю Перекопскому, Каспаромъ Гармановичомъ (АЗР, I, 165, 1496).

**Сланье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* слати I *у* 2 *знач.* [листъ] до пана подстолего, до Трабъ о слан[ь]е овсовъ и сенъ до Вилни (КПД, 731, 1563).

**Сланятися** *дзеясл. Сланяцца.* ꙗ ... есми былъ на манастыры и ꙋ притворе сланꙗлсꙗ (КВЗС, 45, 1538).

**Сласне, сласно** *прысл. З задавальненнем.* Занюж бы*х* тогды спо*л*на радовала*се* коли бы*х* ис сино*м* мои*м* посполоу оу*м*рети могла. сласно ми есть оу*м*рети бедници (Пак. Хр., 11б); без болести оу б҃зе сласне засноу*л* (Валх., 67б—68).

**Сласнейший** *прым., выш. ст. ад* сласный *у* 2 *знач.* Занюж ми ничого не*т* нине сласнеишого (Пак. Хр., 11б).

**Сласно** *гл.* сласне

**Сласный** *прым.* **1.** *Салодкі.* ести потравы сласны и речи росолныи. и речи ѡстрыи. и кислыи. и пити пиво старо без воды (Арыст., 235).

**2.** *Прыемны; светлы.* теперь ѡпѧ*т* ѡ*т* ритерѧ рогатиною боки преколотые ѡплакевала и плачоучи кликала iс*с*е iс*с*е сласныи створителю всего (Пак. Хр., 15б—16); Муртазы цара мысль и воля сласная съ нами (КЗ, 354, 1484). ◊ Сласная память — *светлая памяць.* активоване листу сласное памети его милости пана Адама ... Хребтовича (АВК, I, 84, 1649).

**Сластолюбецъ** *наз. Сладастраснік.* Будуть бо ч҃лци ... невѣтохранители, продерзливи, прелогатае, невъздержници, некрот^s^ци ... сластолюбци нежели б҃голюбци (Будны, 152).

**Сластолюбивый** *прым. Сладастрасны.* такова е*ст* шкода бѣсо*в*скаѧ або раче^s^ ꙋдица, которою сластолюбивы*х* и любопло*т*ны*х* ... бѣсъ и в пропа*ст* низводи*т* (Зб. 82, 413). *Параўн.* сластолюбный.

**Сластолюбие** *наз.* **1.** *Сладастраснасць.* ꙋдица которою сла*с*толюбие*мъ* и любопло*т*ныхъ емле*т* бѣ*съ* и во пропа*ст* изводи*т* (Зб. 752, 160).

**2.** *Прагнасць да яды.* Третѧѧ злость сластолюбiе, або роскоши в^s^ покармахъ и в^s^ напоѧх^s^ заживан*е* (Каліст, II, 125б).

**Сластолюбный** *прым. Тое, што і* сластолюбивый. ѡц҃и ... мирьского сластолюбного ничесо же приемлюще. готовѧщесѧ боудꙋщих благъ црства нб*с*наго (Чэцця, 299б—300).

**Сласть** *наз.* **1.** *Салодкасць.* приложити к семꙋ ѡных зелеи. толко чтобы вызнати сласть их. и мало соли (Арыст., 212); Сладость, сласть, солодкост, роскошъ, смачнаѧ приправа (Бяр., 149).

**2.** // *перан. Асалода, уцеха, задавальненне.* б҃ъ ... блꙋдъ до конца погꙋбилъ. и всѧкꙋю сласть што ражаеть грѣх потребилъ (Чэцця, 25); пꙋстынныи жители сласти житиꙗ страсти своꙗ оумертвиша (Там жа, 77б—78); во сласть тобѣ будеть сонъ твои (Скар. ПС, 9); Тежь которыи болеи богатества и тѣлесные сласти любѧть нежели бога (Будны, 7).

**Слати I, слать** *дзеясл.* **1.** *Пасылаць каго-н. з якой-н. мэтай, з якім-н. даручэннем; адпраўляць.* мы перво сего ... слали до тебе наши послы о братствѣ и о пріязни (АЗР, I, 125, 1493); маеть врадникъ своего служебъника слати до господара (КПД, 586, 1557); тые почты свои водле важности имене[s] своих винни слати и выправовати (Ст. 1566, 20); тогды сторона жалобнаѧ маеть ... до того именьѧ ку довоженью собе справедливости ехати, албо кого з моцъю ѡт себе кꙋ праву слати (Ст. 1588, 197); перве[s] слал есми до вас послы (Стрыйк., 450); ѡт себе слали пословъ до митрополита (Барк., 147б); безъ исца намъ на него децкого зъ Литвы не слати (ИЮМ, II, 236, 1634); Іаковъ шлетъ сн҃ы до егѵптꙋ копова зьбожьѧ (Хран., 68).

**2.** *Адпраўляць, пасылаць што-н. для перадачы, дастаўкі паводле прызначэння.* мели слати на замки нашы укромные пищали и самострелы (КЗ, 513, 1492); теперъ свое властное жито и крупы и попелъ и смолу, не перекупаючи ни въ кого, призволяемъ имъ слати до Риги (АЗР, I, 200, 1499); да тогды ѡдин приѧтел дрогомоу пріателю своемоу шлеть капоустное албо иных зель насеніа (Валх., 79б—80); тотъ врядникъ ... напервей взялъ мемъбрамы два, которые былъ наготовалъ до Солоки слать (АВК, XXVI, 474, 1586); то тобе шлю пилу мачугꙋ и завоек з золотом (Алекс., 7); вырокъ сей которого мы шлемы, по всих мѣстах нехай будет завѣшоны[s] (Біблія, 584); такъ и Бг҃ъ, ꙗкъ Кроль писма Бж҃ественный ꙗкъ листы ꙗкіи шлет[s] людемъ (Мак., 325); Іаков шлет братови дары (Хран., 50).

**Слати II** *дзеясл.* **1.** *Класці, накрываючы паверхню чаго-н.; насцілаць.* хворостъ ис деревьꙗ слали на зм҃ли (Пак. Хр., 17); Под нимъ будуть промени солънеч[s]ные, и стелеть собѣ злато ꙗко грѧзь (Скар. IК, 50); Многие тежъ одежи свои слалі по дорозе (Цяп., 59); потом ѡнъ собѣ далъ ему постѣль слати (Рач., 316); ꙋслышавши то повстали, а шаты свои почали слати под ноги его (Бельск., 126б).

**2.** *Рабіць; збудоўваць.* з кгроун<sup>s</sup>тꙋ праве вывороче*нѧ* дорогꙋ слали, и по сей дн҃ь стелю*т* (Апакр., 214б—215). // *перан.* Противко томꙋ е*ст* анъгелъ сторо*ж* або хранител нашъ, котори[s] намъ стеле дорогу до земли ѡнои ст҃ои (Пралог, 549).

**Слатися** *дзеясл. Спасылацца на каго-, што-н.* тотъ Долматъ и з братомъ своимъ на своего жъ свѣтка не смели слатися (КЗ, 541, 1494); мы спытали Ганны: шлешься ль ты на тыи светки, чиль не шлешься? И Ганна на тыи светки не послалася (КСД, 30, 1510); ѡнъ на светъки слатисꙗ таки не хотелъ (КВЗС, 11, 1533); мытникъ нашъ Пинскій Ножимъ Пейсаховичъ самъ отъ себе и отъ товаришовъ своихъ ку речи и отъ речи на земянъ и мѣщанъ Пинскихъ также слался (АСД, VI, 43, 1550); Щасный на доводъ не шлючися и поведилъ (АВК, XXII, 65, 1555—1565).

**Слать** *гл.* слати I

**Слегование** *наз. Сачэнне; назіранне, нагляд за кім-, чым-н.* да тые николаите оуписати оу кн҃ги ѡриеновы. на потверженіе своего кацерства и блꙋдо*в* и покалене слегованіа штобы бо*г* тыхъ дѣлъ не ненавиде*л*. которе са*м* створи*л* те*ж* оу ины*х* книга*х* ѡны*х* писано (Валх., 82б).

**Следевка** *наз. Тое што і* селедевка. лою следевокъ ѕ҃ (6), въ нихъ важит, каменей мв҃ (42) (АВК, XIV, 651, 1599).

**Следзиона** *наз. Тое, што і* селезена. Сплина*в*: Нарꙋшенои следзіоны (Бяр., 311).

**Следзь, следь** *наз. Тое, што і* сельдь. мѣщанинъ Виленскій, провади съ Кролевца соли лаштовъ і҃, следи лаштовъ г҃, цукру фарину бочка а҃, въ ней важитъ каменей ді҃ (АВК, XIV, 651, 1599); вина куфу, следзи бочку ... кгвалтовне и безправне забралъ (АВК, XV, 348, 1676); п. Помарнацкому купили пива гарнецъ ... три десятка следзей (ИЮМ, XVII, 27, 1710).

**Следити** *дзеясл. Сачыць.* ꙗко пытаешисѧ о грѣсехъ мои*х*, и безаконие мое следилъ еси (Скар. IК, 15).

**Следникъ** *наз. Сабака, які ўмее браць след.* Тэжъ ꙋставуе*м* цену собака*м*, хто бы кому, следника або набрешника ꙋкра*л* або заби*л* двенадцать ко*п* гр҃ше[s] (Ст. 1529—Ф, 153).

**Следованье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* следовати *ў 2 знач.* Правила Григорьевъские. Григоре[s] Богословъ Еванъгелие, въ четвертку, синимъ ѡксамитомъ крыто, пꙋкли серебреные, позолочиваные. Псалтыра, золотомъ писано. Псалтыра со следованьемъ (КСД, 872, 1516); въ следованье тихости богобоанье богатьство и честь и живѡ*т* (Зб. 262, 104).

**Следовати** *дзеясл.* **1.** *Належаць.* рек моисеи подвоим словеси во многих книгах своих. наоучаѧ люди спѫскатисѧ на прирожение. ѩко же следѹеть семѹ (Арыст., 223); Также тежъ протистовалъ се его милость панъ Исаковскій, ижъ што за тотъ рокъ теперешній слѣдовало и котлового въ мѣстѣ Виленскомъ, брать не зачиналъ и не выбералъ (АВК, VIII, 493, 1602).

**2.** *Прытрымліваццa чаго-н.* ѡмерзено гѹ поут нечестивого и хто следѹеть правдѹ бѹдет полюбленъ (Зб. 262, 100б).

**Следокъ** *наз., памянш. ад* следъ. тая земля пуста, а ни следка к ней нетъ (ИЮМ, XXII, 459, 1628).

**Следомъ** *прысл. Следам, услед.* артыкѹл ѕ҃: ѡ гонене следом въ ѩкоѕколве шкоде покраденнои (Ст. 1566 I, 99б); назавтреи некоторыи его воиска жолнерын прынесъ ему мѣчъ, которыи с трафунку нашол на просторном поли, коли шол слѣдом (Атыла, 180); вземшы зъ собою сторону ... ехали следом, куды быдло съ того селца проважоно и маетност их везена (АВК, XXXVI, 60, 1582); ѡн взѩвшисѩ за его Посохъ зѹбами, шолъ за ст҃ымъ слѣдомъ (Пралог, 562).

**Следъ** *наз.* **1.** *След, адбітак ступні нагі (капыта, лапы) на якой-н. паверхні.* оувидели з҃млю оу своих мѣстцех следми конскими стоптаноую (Валх., 48б); у мещанина ... в дому, до которого след шол, у пути видел сѣна немало (ИЮМ, XXXII, 69, 1578); потолоку и следов много и на леду на тых помененыхъ реках знаки кров рыбью видел есми (АВК, XXXI, 56, 1590). // *перан. Паласа і пад. на паверхні чаго-н. пасля перамяшчэння па ёй.* поминеть животѕ нашъ ѩко следъ облаковъ (Скар. ПБ, 4); ѩко лодьѧ плывущаѧ по быстрои водѣ, еѩ же следъ не можеть знаиденъ быти внегда минеть (Там жа, 8). // *перан. Адзнака таго, што тут хадзілі; дарога, шлях.* они в тотъ часъ мимо садъ мой тымъ же следомъ, которымъ до клуни приехали и клуню зажгли, назадъ отъехали (АВК, XXI, 276, 1558); возный з стороною ... ехали есьмо тымъ следомъ ажъ до двора панънны Богъданы ... и знашли есмо на дворе бервенья и жердья (АВК, XXXVI, 24, 1582). // *перан. Вынік чыёй-н. дзейнасці, якой-н. падзеі.* иже ганбили тебе а хвалити боудоут следы ног твоих (Валх., 53б); згинуло дей на его следу шесть мисъ цыновыхъ (АВК, XVII, 310, 1541); тотъ шкодныѕ понѩл бы след тое шкоды своее (Ст. 1566 I, 99б); на следу ее згинуло ми с клети осмнадцати коп грошей (АВК, XXXIX, 425, 1579); балванскіе зась божницы и ѡлтари пороскидалъ, и з кгрѹнтѹ ѡные вывернѹл, жадного слѣдѹ незбожности не зоставаючи (Варл. 304).

**2.** *Ніжняя частка ступні, падэшва нагі.* егда оумывах следы мои масло*м* и скала иже со мною ѡбливалася реками ѡлеиными (Зб. 262, 24); Стопа: Слѣд[s] ... стопа, стѹпень (Бяр., 156).

**3.** *Прыкмета стану.* ты новый ѡ*т*тѹль, и ѡ*т* вшелѧкои змазы ѡчищеный выйдешъ, жадного слѣдѹ злости на собѣ не маючи (Варл., 300). ◊ Следъ гонити — *праследаваць каго-н.* панъ Миколай Костюшко слѣдъ гонилъ у середу и въ пятницу (АВК, VI, 35, 1589); поняти следъ *гл.* поняти.

**4.** *Надзел зямлі.* передъ тымъ тая земля одна была, ани не поделена на пять следовъ: подъ тымъ Ондрейкомъ три следы, а подъ Демяномъ и подъ Онципоромъ два следы (КЗ, 56, 1475); тая Ганка передъ нами повѣдила, штожъ тыи два слѣды дала ей небожчыца пани Сенковая (Там жа, 560, 1494); ѡнъ тепе*р* тотъ сле*д* корольковъ де*р*жить (КВЗС, 157, 1540).

**Следь** *гл.* следзь

**Слеза** *наз. Сляза.* лице его все слезъ напо*л*нилосѧ (Чэцця, 238); возри на мое роскры*ва*веное ср*д*це и мое прегоркіе слезы (Пак. Хр., 3); в слеза*х* сѧ кохала грехи сво*а* ѡплакиваючи (Зб. 261, 151б); слезы сѧ емѹ з ѡчѹ линѹли, та*к* а*ж* ѹстѹпи*т* до коморы мѹси*л* (Бельск., 31); поча*л* слезы пѹща*т* ꙗко рекѹ (Стрыйк., 453); пре*д* сенато*м* фалшивыми слезами закриваючи ѹчинокъ сво[s] (Хр. польск., 2); Первей воды слезами твари оумываемъ (Лям., 4); Съкрѹшаюсѧ: До слез и млсрдѧ побѹжаюсѧ (Бяр., 164); Слезы теды ѡ*т*цевскіе рыцера хрстового почали мекъчити (Зб. 107, 65); она до пе*р*вое сличности пришла, коли ѹчула ижъ слезы зъ ѡ*т*чу ее опоꙗ пресветаꙗ рѹка отирала (Зб. 255, 37б). ◊ Выпускати слезы *гл.* выпускати; выпустити слезы *гл.* выпустити; заливатися слезами *гл.* заливатися; залитися слезами *гл.* залитися; обливатися слезами *гл.* обливатися; облитися слезами *гл.* облитися.

**Слезакъ** *наз. Тое, што і* сленжакъ. Nemcow bezczyslennoie mnożestwo pobito y k tomu hostey Rakuszan, Slezokow, Czechow (Бых., 532).

**Слезити** *дзеясл. Слязіцца; плакаць.* Плачетъ: слезитъ (Бяр., 104).

**Слезка** *наз., памянш. ад* слеза. ани ѡ*д*ное слезки на моли*т*ве мое[s] вытиснути не могѹ (Зб. 255, 244).

**Слезне, слезна, слезно** *прысл. Слёзна.* вси зрѧще его слезна плакахоусѧ (Чэцця, 239); Луканъ Чухиста ... просил дей тог пана Ивана слезне, жебы за него заплатил ... десеть коп гршей (АВК, XXXIX, 538, 1579); почали ѹпоминати и просити ко-

ролѧ слезно абы того не чынилъ (Рач., 354); што униженно и слезно прошу, и именемъ Божіимъ яко сына церкви Божой милого и благочестивого упоминаю: не обрушайся гнѣвомъ (АЗР, IV, 99, 1595); бра*т* з брато*м*, сестра з сестрою, му*ж* з жоною, тыми словы мовили силне слезно горко (Барк., 165); богове ... слезне прошꙋ и зо вси*х* си*л* мои*х* жада*м*, допоможѣте в то*м* небе*з*пече*н*ствѣ народови ри*м*скомꙋ (Бельск., 167).

**Слезный** *прым*. **1.** *Які мае адносіны да слёз*. слез^sными стрꙋѧми землю поливаетъ (Карп., 13б—14); Аврами^s ... на сторонꙋ сѩ ѡбернꙋвшы рꙋча^s ѡны^s слезны^s выпꙋсти*л* (Зб. 752, 90б).

**2.** *Які імкнецца разжаліць, расчуліць каго-н.; жаласны*. я ... видечи таковое слезное чоломъбитье ее, для всякого на пришлый часъ помовенья передъ людьми добрыми, ее-мъ взялъ нищимъ, одно в сукмане чирвономъ сукна простого, и то вжо ветхая (Пін., 142, 1563).

**3.** *Набыты цяжкай працай; няшчасны*. корми*ш* нас хлебо*м* слезны*м* (Пс. XVI, 83).

**Слезти** *дзеясл*. *Тое, што і* злезти *ў* 1 *знач*. в то*т* час закхѣи слѣзлъ. принѧлъ его в домъ свои (Чэцця, 321б).

**Сленжакъ** *наз*. *Сілезец, ураджэнец Сілезіі*. петиго*р*цы, че*р*касы, литва, москва, кашꙋбове, ва*н*далитове, сле*н*жацы, моравѩны, бехемове (Стрыйк., 426б—427). *Параўн*. слезакъ, слижакъ.

**Слепетъ** *наз*. *Тое, што і* свепетъ. дерево бортное, пчолы на корень деручы, слепеты подтинаючы, медъ выбирали (ИЮМ, XVII, 209, 1663).

**Слепецъ** *наз*. *Сляпы чалавек*. тоу при поути сѣдѧше слепець (Чэцця, 347); Просили слеп^sци Іерихон^sскіе прозрѣти, и прозрели (Будны, 196); д^sва слепъцы седечи п^sри дорозе. ꙋс^sлышав^sши ижъ исусъ мимо идеть, закричалі мовечі, з^sмилуисе над^s намі пане (Цяп., 28), слѣпецъ слѣпца если ведетъ, обадва въ яму впадутъ (Пыт., 11); кгды пришолъ до домꙋ, пристꙋпили к^s немꙋ слѣпцы, и мовилъ имъ Іс҃ (Каліст, II, 38); слѣпецъ оный, хотѧй ходити, и до Гс҃да пріити не могл^s, не маючи в^sзрокꙋ (Мак., 207—208); е*ст* розница межы слепцами дшевными и теле*с*ными (Зб. 259, 62б).

**Слепити** *дзеясл*. *Тое, што і* злепити. Въспомѧни молю ти сѧ иже ꙗкобы грѧзь слепилъ мѧ еси, и въ пер^sсть паки прѣменѧет^s мѧ (Скар. IK, 15); глина гор^sнъцарева въ руце его вчинить с нее и слепить елика хощеть (Скар. IC, 54).

**Слепитися** *дзеясл*. *Станавіцца сляпым*. ваши господары сами межь себе слѣпилися и губилися (АЗР, IV, 498, 1615).

**Слепица** *наз. Сляпая жанчына.* свое великое млсрдіе. выливал на всех грешных слепиць. и немоцных (Пак. Хр., 9б).

**Слепляти** *дзеясл. Зляпляць.* кто ꙋчить безумнаго ꙗкобы тои онѕ же слѣпѕлѧеть черепъе (Скар. IC, 35); горѕнъчаръ ... слепѕлѧетѕ къ пожитку нашему всѧкии сосудъ (Скар. ПБ, 23).

**Слепо** *прысл. Слепа.* щенꙗта псие слепо родꙗтсꙗ (Зб. 259, 192б); але ты такъ криво и слѣпо на мене гледишъ ꙗкъ и на боги свои (Пралог, 530).

**Слеповоронъ** *наз. Пугач.* Нощный вранъ: Слѣповоронѕ, птица си плачлива естѕ (Бяр., 99).

**Слепонароженый, слепонарожоный** *дзеепрым.* **1.** *Слепанароджаны.* Мешко который был слѣпонароженый ѡтцеви ведлуг ѡбычаю погреб пристойный ѡтправивши, за зезволенем всѣх на монархию полскꙋю ѡбран (Стрыйк., 604б). *Параўн.* слепоуроженый *у* 1 *знач.*

**2.** *У знач. наз. Той, хто нарадзіўся сляпым.* з вѣкѡвъ не естъ слыхано, жебы отворилъ хто ѡчи слѣпонарожономꙋ (Каліст, I, 140б); гсдь ... грѧз взложилъ на ѡчы слѣпонароженомꙋ (Зб. 82, 77). *Параўн.* слепонарожденный, слепоуроженый *у* 2 *знач.*

**Слепорожденный** *дзеепрым. у знач. наз. Тое, што і* слепонароженый *у* 2 *знач.* Не слыхано отъ вѣку, штобы хто слѣпорожденну отворилъ очи (АЗР, 174, 1574); хсс гсди ꙋчител наш ... болото вложил на ѡчы слѣпорожденномꙋ и привернул емꙋ свѣтлост (Зб. 752, 45).

**Слепота** *наз.* **1.** *Слепата.* богъ ... хрістианъ скаралъ, некоторих слепотою, инѕшихъ неволею (Будны, 8б); иелисеѕ молилсе до гсда мовꙗчи: зарази прошу сеѕ людъ слѣпотою (Біблія, 468); заразом на нег напала слѣпота на ѡчи снат з воли бж҃ои (Стрыйк., 450б); На ѡстаток длѧ тоеж прычины забороненье естъ сщ҃енство тым которые длѧ ꙗкого значного недостаткꙋ, на тѣле шкарадные або оуломные сꙋть: ꙗкии естъ наприклад глꙋхота, слѣпота и инные тым подобные (Навука, 144); такъ ѡдин в слѣпотѣ зостал, а дрꙋгиѕ ѡт зараженьѧ мѣстцъ скрытых ꙋмеръ (Зб. 107, 166); анъгелове в содоме поразили слѣпотою людеѕ роспꙋстныхъ (Зб. 259, 596); коли пытано прічины слѣпоты его не подал правды (Зб. 82, 427); Востанꙋтъ зась людіе хорошшіи нѣжъ были, безъ слѣпоты, хромоты, глꙋхости, и инныхъ вадъ (Зб. вып., 97).

**2.** // *перан. Няўменне заўважаць, разумець што-н., правільна меркаваць аб чым-н.* Хто верыт евангелии а слепоты геретыцкое не припꙋщаетъ видитъ и ледве не пальцомъ дотыкатъсе

можетъ ижъ гсдь нашъ исѹсъ (Бер. саб., 27б); Тѹт се ѡказала людскаꙗ слѣпота в хтивости панованꙗ хотꙗ и стог рожаю были (Бельск., 165б); з[s] вшелѧких нас небезпеченствъ, бѣдъ, и смѹткѡвъ выбавлѧти, и слѣпотѹ дѹшъ наших лѣчити (Каліст, I, 129); ѹваж незмерную слепотѹ нашѹ иж так снадне слова и приказанꙗ его кгды ꙗко Иѡан светы[s] мовит не сут тꙗжкие, престѹпѹем (Зб. 255, 66); свꙗты[s] конон ... плакалъ и смѣꙗлъсе тежъ з такой слѣпоты и глѹпости поганства (Пралог, 490).

**Слепоуроженый, слепоурожоной** *дзеепрым.* **1.** *Тое, што і* слепонароженый *у* 1 *знач.* шолъ до Авърелии дитꙗ слѣпоѹроженное кладѹчы знак креста стого на ѡчы его так ѹздоровил (Зб. 752, 330б).

**2.** *У знач. наз. Тое, што і* слепонароженый *у* 2 *знач.* о причинѣ слѣпоты оного слѣпооуроженого пытаютъ (Каліст, I, 141); розмышлꙗне в середѹ по четверто[s] ндли в постъ ѡ слепоѹрожонымъ (Зб. 255, 26).

**Слепый** *прым.* **1.** *Сляпы.* конь турецкий старый и худый, иноходничокъ гнедый хромый и слепый на одно око (АВК, XXII, 156, 1565); естли бы теж пригодилосѧ чл҃вкѹ слепому тастаментъ чинити (Ст. 1566 I, 72б); очи слѣпыи и члонки гнилые здоровымъ завадживаютъ (АЗР, IV, 226, 1600—1605); Гѵена взѧвши свое щенѧ которое было слѣпо принесла до стго Макаріа (Мак., 18); ты в притворе тое жъ годины жидови слепомѹ взрокъ приворочаешъ (Зб. 259, 60б); гды ѡбачил сн҃а его на ѡдно ѡко слепого, реклъ (Пралог, 673); Чл҃вкъ если бѹдетъ слѣпый або хромый, если малогѡ носа ... Кождый который бы мѣлъ вадѹ з насѣньѧ Аарѡна сщ҃енника, не пристѹпитъ оферовать оферъ бг҃ѹ (Хран., 123б); мѣли черницу дѣву слѣпую глухѹю и нѣмѹю (Зб. 752, 579).

**2.** *У знач. наз. Той, хто не бачыць, пазбаўлены зроку.* блудили суть слепыи на ѹлицахъ (Скар. ПЕ, 10б); п[s]рис[s]тупили к[s] нему х[s]ромые и сьлепые в[s] цѣр[s]к[s]ви (Цяп., 29); слепы[s] никгды дрѹгого слѣпог вести не может, бо бы ѡбадва где в ров ѹпали (Зб. 261, 76б); слѣпыи хромыи трѹдоватыи мѣли быт над иншие люде залецени (Бельск., 181); слепы[s] мовилъ, а посполство емѹ лаꙗло жебы молчалъ (Зб. 259, 327б); слѣпы[s] ѡдин ѡт пороженѧ мѣсту всемѹ знаемы[s] просил павла абы емѹ ѡчи дал (Зб. 82, 73б); Селꙗне тежъ ... приводили до него слѣпых хромых бѣсоватых и иных на здоровю ѹломных, а ѡнъ всих исцѣлил (Пралог, 486); Былъ слѣпомѹ ꙗкѡ око, хромомѹ ꙗкѡ нога (Хран., 54).

**3.** // *перан. Які не заўважае, не разумее таго, што адбываецца навокал.* Беда вамъ вожи сьлепые, мовечие. котории есьли п<sup>s</sup>рисегаетьсе цѣр<sup>s</sup>ковъю, ничого не есьть (Цяп., 32б); не сѹть такъ слепы жебы не видели же то на папежа, не можеть быти никаким кгвалтом натегано (Унія, 35б—36); кождый с тыхъ што то писали; чили пак ты, што иного пишешъ; за невѣрѹючого в<sup>s</sup> евангелію и за слепого еретика маетъ быти поличонъ (Апакр., 95б); Азажъ теды неслѹшне з<sup>s</sup> васъ глѹпыхъ и слѣпыхъ, и безрозѹмныхъ людей насмѣватисѧ албо рачей плакати можемо (Варл., 288); ѡ слепый и глупий, гдежъ тутъ розѹмъ вашъ которим ся хлюбите (Пралог, 555).

**4.** *Нябачны, схаваны.* съ тыхъ сѣней до крыжового дому двери на завѣсѣхъ, и зъ замкомъ слѣпымъ (АСД, I, 145, 1571).

**Слесакъ** *наз. Ружэйны затвор.* за направоване мушкетовъ двадцати и бандалетовъ двухъ, до мушкетовъ трубы новые, и слесаки, и штемли (ИЮМ, IV, 206, 1686).

**Слесарский** *прым. Слесарскі.* по томѹ жъ ковалскому слесарскомѹ инъшыхъ всихъ ремесниковъ розныхъ ремеслѹ начыныя належачие, мають быти сужоны и плачоны водлѹгъ доводѹ (Ст. 1588, 517); Пилку купили слесарскую полскую (ИЮМ, X, 151, 1695).

**Слесарство** *наз. Слесарства.* Васько слесарь, тотъ на слесарствѣ, пляцу пружовъ двадцать чотыри (АВК, XIV, 431, 1592); Товел молотом робил, ковалство, слесарство, злотництво, малярство и всѣх рече<sup>s</sup> домовых ринштунков, и рицерских потребъ належачых (Стрыйк., 413).

**Слесаръ, слиосаръ, слосаръ** *наз. Слесар.* тые вси мають быти права Майтборского послушни, потомужъ и ремеслники мѣста Полоцкого, золотари, кушнеры, кравцы, сѣдляры, рымари, ковали, слѣсары, шевцы (АВК, II, 76, 1510); Богданъ Новгородецъ, слосар и мещанин Могилевски, оповедал (АВК, XXXIX, 145, 1578); ткачѹ, слесару, столмаху ... тымъ всихъ головщины по тридцати копъ гроше<sup>s</sup> (Ст. 1588, 488); ѡни рекли: якъ мы тебе легкимъ ѹчынимъ, а не естесмо слесары жебысмы тебе ѡпиловали (Зб. 752, 463); за направу замку до брамы вѣтреной Ивану слѣсарю заплатили асм. осмнадцать; за робенье лисицы томужъ слѣсарю дали (ИЮМ, I, 32, 1679); за направу кротицы меское, Жабце слесару осмак. пятнадцать (ИЮМ, III, 139, 1685); за направу замку великаго отъ цекавзу Ѳедору Мятельскому слесару, на ново всего робилъ, заплатили ему золотый (ИЮМ, IV, 112, 1686); Слесару за два ключи, зол. одинъ

(ИЮМ, IX, 123, 1692); заплатили слесару за клямку отъ канцелярыи осм. пять (ИЮМ, XI, 29, 1697); особливе Мартину, сліосару, за две штуки, взглядомъ роботы лепшой, по зол. десять (ИЮМ, XII, 102, 1698).

**Слететися** *дзеясл. Зляцецца.* слетешесѧ п*с*тици на мѧса мерътваѧ и обгонѧлъ е*ст* е*с* аврамъ (Скар. КБ, 28б).

**Слетити** *дзеясл. Тое, што і* злецити. Ивашъко ... слѣтил и дал моцъ от себе у суду ... пну Ивану Богдановичу (АВК, XXXIX, 185, 1579).

**Слечи** *дзеясл. Злегчы.* но болети има*т* водны*м* недѹго*м* и трѹдо*м*. тако и жена в то*т* чинъ слѧгоуще скоро оумреть (Неба, 89).

**Слиание** *гл.* слияние

**Слианый** *гл.* слияный

**Слива** *наз.* **1.** *Сліва.* поведи по*д* которым*с* древо*м* видел*с* вкупе гл҃ющи*х*. ѡн*с* же ре*ч* подъ сливою (Скар. ДП, 37); Степанъ а Гаврило Ханцовичъ, нашодши кгвалтомъ садъ мой властный, груши и яблыка и сливы потрясли (АВК, XVII, 142, 1540).

**2.** *Плод слівы.* поживати всѧкое стѹденое. ꙗкоже солѧ*т* со ѡщто*м* и тыкви иныи стѹденыи ... ѡвощѹ же ꙗблоко. и кислыи сливы инаѧ разны кислыи (Арыст., 233); Сливъ сухихъ фунты четыри, по осмаковъ десять, заплатили зол. одинъ и осм. десять (ИЮМ, IV, 133, 1686).

**Сливатель** *наз. Майстар ліцця; скульптар.* ѡн*с* же внегда взѧлъ ѡ*т* нихъ, вчинилъ з*с*разъ ꙗко чинѧть и сливатели (Скар. КВ, 60б).

**Сливати** *дзеясл. Адліваць.* было естъ сто талѣн*с*тъ сребра, с него же сливали суть под*с*став*с*ки свѧтыни (Скар. КВ, 72б).

**Сливка** *наз., памянш. ад* слива. онъ зоставилъ ... въ двухъ фунтехъ перцу, и въ двухъ фунтехъ кмину, и въ каменю сливокъ угорскихъ колнеръ перловый (АВК, XVII, 197, 1540).

**Слижакъ** *наз. Тое, што і* сленжакъ. лешко маючи з собою чехи, поморане, слижаки и прѹсы поткалсе з ни*м* ѹ реки ѡдри (Хр. польск., 3б).

**Слижка** *наз. Лага.* купили две пары постронокъ пенковыхъ, дротованыхъ для завешованя слижыкъ на рыштунки скарбовые въ избе мурованой подъ ратушою (ИЮИ, X, 51, 1695).

**Слижъ** *наз. Галец.* Оу, panie! hodia Franca witat, jak sliża w Niemen upustit (Абух., 441).

**Слизити** *дзеясл. Выдзяляць слізь.* вода ротомъ и носомъ съ того трупа течетъ, слизитъ (АВК, XVIII, 241, 1615).

**Слизкий** *прым. Слізкі.* ꙗзыкъ ... е*ст* ба*р*зо слизки ла*тво*с *п*ализне*т* та*м* (Зб. 261, 153б); ноги за*с* ꙗкъ на слизко*м* и непевномъ ст*ꙋ*пени державлися (Варл., 111б); почали іти ... до зе*м*лѣ те*м*ности и мизе*р*нои через дорогу на долъ спадаючую и слизкую (Зб. 107, 103); коли в дорогꙋ едешъ ѡмиꙗешъ слизкие мѣ*ст*ца (Зб. 259, 307б); Всꙗко*ж* справе*д*ливе еси и*х* поставил на мѣстца*х* слизки*х* коли сꙗ по*д*носили, Спихае*т* ихъ на згине*н*е (Пс. XVII, 54б).

**Слизкость** *наз. // перан. Уласцівасць слізкага; небяспечнасць, ненадзейнасць.* вси есмо грѣшни, а тѣло*м* и слизкостю грѣхꙋ ѡбложени (Зб. 752, 423б).

**Слимакъ** *наз. Слімак.* Ѕельвы: Слимаки (Бяр., 45).

**Слина, слинна** *наз. Сліна.* его пресласные оуста такъ вонѧющими слинами ѡд грѣшны*х* людеи было оуплевано (Пак. Хр., 7б); слины тек<sup>ꙋ</sup>ли емꙋ по браде (Скар. ПЦ, 46б); ѡбразы пресли*ч*ные подо*п*таны, и слинами помазаны (Бер. саб., 50); не мелъ чи*м* писать ажъ наплева*л* ꙋ калама*р* писалъ слиною (Царств., 71); дѣдъ ... ꙋчини*л*сꙗ шалены*м* и то*л*калъсꙗ ꙋ ворота за*м*ку и зстекали слины его на бородꙋ (Біблія, 337); то ре*к*ши, плюнꙋлъ на землю, и оучинилъ болото з<sup>ѕ</sup> слины (Каліст, І, 140); Плюновеніе: Слина (Бяр., 105); ꙗко слина з головы сплывае*т* та*к* мꙋдрость з вырозꙋме*н*ꙗ (Зб. 255, 96б); слина человѣчаꙗ на*т*що е*ст* трꙋтизною ꙋжови (Зб. 259, 361б); сли*н*ною своею вродоватꙋю пане*н*ку ма*т*це ѡ*д*но*и* злечили (Зб. 81, 90). *Параўн.* слюна.

**Слиненье** *наз. (?).* ѡферовала се до*с*конале, бо света згола се вырекла, а *в*сꙗ на слинене воли божо<sup>ѕ</sup> ѡ*т*далась бꙋдꙋчы готова ѡ*с*тато*к* жывота въ ꙋбозстве ... пребеже*т* (Зб. 255, 203—203б).

**Слинити** *дзеясл. Слініць.* гсдь ... пере*д* ѡчима ѡны*х* же люде<sup>ѕ</sup> пере*д* которими бы*л* зе*л*жоны<sup>ѕ</sup> мета*т* слини*т* роздира*т* и дꙋши*т* поча*л* (Зб. 82, 159). *Параўн.* слюнити.

**Слинка** *наз., памянш. ад* слина. тотъ писа*р* ... намъ ... непорѧдокъ, слѣпотоу, нестатокъ, глꙋпство, блюзненъе, смѣлость и вшете*ч*ность безбо*ж*ноую, а згола все што ꙗдовитаѧ слинка до оустъ принесла приписꙋючи (Апакр., 4б).

**Слинна** *гл.* слина

**Слиосаръ** *гл.* слесаръ

**Слити** *гл.* злити

**Слитися** *гл.* злитися

**Слитокъ** *наз. Тое, што і* злитокъ. згинул ... пилок тузин, сребра гривны две в слитках (ИЮМ, XXX, 152, 1577).

**Сличити, сличить** *дзеясл. Тое, што і* зличити *ў* 1 *знач.* сходи ... и сличи всехъ да оувемъ число колико естъ ыхъ (Скар. ДЦ, 115б); оказалъ мне возному и стороне моей пень порубаного дерева, наличилъ есми ... на будованье годного сто, на хворостъ годного безъ личбы, чого есми сличить не могъ (АВК, XVIII, 192, 1603).

**Сличне, слично** *прысл. Прыгожа.* Полочаномъ всемъ Немечькымъ купьцемъ Ризькимъ слично и право дѣяти всякоимъ, торговемъ дѣлѣ и торговлею, без всякяя хитрости право чинити (РЛА, 119, 1405); сличне и выборне тело честоують милоують и подносѧт (Валх., 96); церков и бронѹ барзо сличне змѹровал (Стрыйк., 469); не замкненые, до оное слич^sне прыбраное лож^sницы твоее двери (Карп., 25); обачѹ неба справѹ палцѡвъ твоихъ, мѣсѧцъ и звѣзды которыи его такъ сличне приѡздобилъ (Каліст, I, 11); Котораѧ в ризы позлащенны ѡдѣꙗнна, барзо сличне и пенкне испрещрена ѹбрана (Зб. 107, 116б); ѹказала се во сне пречистаꙗ богородица барзо сличне ѹбрана (Зб. 255, 362б); межы ними велми сличне убраную жену з великою а невыповеданною славою (Зб. 752, 17б).

**Сличнейший** *прым., выш. ст. ад* сличный. помыслъте собе што сличнѣ^sшаго было над ха҃ (Зб. 261, 81); ꙗкож^s далеко и неров^sно слич^sнѣйшій, и роскошнѣйшій тотъ рай (Карп., 30); Албо гды бы ꙗкаѧ Панна над вси иншіи сличнѣйшаѧ, мѹдрѣйшаѧ, и богатшаѧ взѧла собѣ за мѹжа оубогого (Мак., 66).

**Слично** *гл.* сличне

**Сличность, зличность** *наз. Прыгажосць, прывабнасць.* Есѳир ... была барзо приемна, и невиданои сличности (Біблія, 574); такъ вѣдаючи ѡ велико^s сличности клеѡпатри, послал до неи абы ему малжонкою была (Рым., 81); нѣ поглѧдаймо пожадливе и без встыдѹ на чѹжѹю сличность (Каліст, II, 73); Бжственною абовѣмъ сличностю сѹть зранены, и животъ нбсной несмертелности к^s дши҃ ихъ ѡплываетъ^s (Мак., 54); тотъ мовлю, которій птахи нбсные живит^s, и лилѣи полные такою сличностю приѡздоблѧетъ (Варл., 92б); Лѣпота: Сличност, пѧкност^s (Бяр., 74); сты҃^s ... впровадивши его ѹказал ему ра^sскую сличност зели^s розличност деревъ розмаитост (Зб. 107, 103); диꙗмент ... мает сличност кришталѹ подобнѹю (Зб. 259, 248б); вѣрѹ ей дали вси и мовили немашъ такой жоны на свѣте, в^s войзренью з^sличности и в^s мѹдрых словѣхъ (Хран., 374б); ѡбраз его ... сличностю и ꙗсностю слонъце и звѣзды переходꙗчые (Зб. 82, 26б).

**Сличный, зличный** *прым. Прыгожы, прывабны.* которе место такъ сличны*м* людо*м* и слоугами бж҃ьими ѡкрашоне (Валх., 95); па*н*на збытне зли*ч*на и ѡздо*б*на и не познана ѡ*т* мужа (Біблія, 55); ѡди*н* вызнавца ст҃ыˢ имене*м* викто*р* свеще*н*ни*к* седѧчи вˢ вѧзе*н*ю ѡ вѣрꙋ, ѡбачи*л* сличноɪ млоде*н*ца свѣтло*ст*ю ѡбточоноɪ которыˢ мови*л* емꙋ (Бельск., 252); це*р*ко*в* ... теды была ба*р*зо сли*ч*на и надобна (Стрыйк., 495—495б); нашли та*м* палацъ дивны*м* ѡбычае*м* справленыˢ велми сличныˢ (Алекс., 37б); Лѣпотный: Сличный, ѡхендожный (Бяр., 74); а*р*фа херꙋ-ви*м*скаѧ мелодиˢна, ба*р*зо сл*и*ч*на и кра*с*на моде*р*ована ѡ*т* се-рафи*м* (Зб. 107, 116б); па*л*ма была, и на*д* тою па*л*мою па*н*на нѣѧкаѧ ба*р*зо сли*ч*наѧ (Зб. 259, 548б); в томъ зашла ночь зъ ѧсностью звѣздъ велми злична (Хран., 24); таѧ сꙋса*н*на была вельми сличнаѧ и надобнаѧ невѣста (Зб. 82, 254).

**Слишокъ** *наз. Тое, што і* злишокъ *у* 1 *знач.* чернѧта хотелъ тотъ слишо*к* ѡ*т*кулупити (ПГ, І, 133, 1436—1437); не колупаи ты того слишка (Там жа).

**Слияние, слиание** *наз. Спалучэнне; сумесь; зліццё.* хто пере-личи*т* вздꙋхи мдрстью и мѣхи нбсныи хто положи*т*: пере-ливаючи персть на слианіе и грꙋды зливаютсѧ (Зб. 262, 28б); Бѣлость или по*до*бе*н* к вапноу, и ко ѡловоу, и ко сѧдрꙋ зꙋбовꙋ сие знаменіе слиѧніе стоуденого, роумѧныи же зсмѧдыи зеле-ныи желтыи. си соу*т* знаменіе слиѧніѧ горѧчого (Арыст., 180); слиѧние же разнолично е*с*. тыи что ро*ди*тсѧ из мозгꙋ спин-наго. сліаніѧ и*х* по*до*бно кожи. а что ро*ди*тсѧ ѡ*т* мозгꙋ сіи волгкыи. сліаніѧ мѧса железного. м҃ѧгко и бѣло (Там жа, 191); именꙋемо хаѡсъ, ѧжь есть сліѧніе, зане тѣды бѣша, четыре составы вˢ мѣсте слиѧны, живы хаѡсъ оубо протолкꙋетсѧ жива глꙋбина, или ѧма, или сліѧніе, или мракъ, или сліѧніе вѣщей (Хран., 1б).

**Слияный, слианый, слиянный** *дзеепрым.* **1.** *Змешаны.* Гла*с* грꙋбы знаменоуеть теплотꙋ слиѧнноую и тонкіи и малыи. и гла*д*кіи знаменоуеть стꙋдень. и говорение борзое, знаменоуеть теплотоу сліѧнноую (Арыст., 190); четыре составы вˢ мѣсте слиѧны (Хран., 1б).

**2.** *Літы, выраблены ліццём, адліты з плаўленага рэчыва.* ѡнˢ же внегда взѧлъ ѡ*т* нихъ, вчинилъ зˢрадъ ѧко чинѧть и сливате-ли. и вделалъ имъ телецъ слианъ (Скар. КІ, 60б); Бога слиана не вчинишˢ собѣ (Скар. КІ, 65).

**Слобода** *наз.* **1.** *Пасёлак, жыхары якога не былі прыгоннымі.* третяя волока въ слободѣ Езерицкой (АСД, І, 6, 1507); лꙋкашъ

